ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

УПРАЎЛЕНЬНЕ ПА МЭХАНІЗАЦЫІ І МОТОРЫЗАЦЫІ РСЧА

„ЗАЦЬВЯРДЖАЮ"
Начальнік Упраўленьня па мэха-
нізацыі і моторызацыі РСЧА

*І. Халепскі.*

# ІНСТРУКЦЫЯ

## па навучаньні ваджэньню малага танка.

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВАЕННАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
МЕНСК—1933

## ЗЬМЕСТ

Стар.



---


Падрыхтавалі да друку:

Пераклад-Я. Марчанкова

Літапрацоўка А. Талюш

Карэктар Э. Мінкіна

Тэхрэдактар К. Невяровіч

Здана ў друк 4/II-33 г.

Падпісана да друку 26/III

Магілеў Бел., друкарня імя Молатава.

Галоўлітбел № 2103. Заказ № 1322. Тыраж 3000.

## АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ.

1. Навучаньне ваджэньню малага танка мае канчатковай мэтай падрыхтаваць вадзіцеля, які-б мог ня толькі тэхнічна правільна кіраваць сваім танкам, але і ўмеў-бы тактычна граматна весьці танк згодна ўказаньняў свайго камандзіра і ўмоў абстаноўкі.

Таму вадзіцель павінен:

а) дасканальна ўладаць мэханізмамі кіраваньня танка і хутка рэагаваць на загады камандзіра;

б) умець правільна вадзіць танк па рознай мясцовасьці ў розных умовах (сутак, часу году) і перасільваць перашкоды і абаронныя пабудовы праціўніка;

в) умець весьці танк у баявой абстаноўцы да ўказанай мэты або па баявым курсе, улічваючы дзеяньне агню праціўніка, умовы мясцовасьці, умовы вядзеньня агню з танка, лёгка орыентуючыся сярод сыстэмы актыўнага і пасыўнага супраціўленьня праціўніка.

2. Поўны курс навучаньня вадзіцеля, калі праводзіць навучаньне цалкам на танку, зьяўляецца эканамічна нявыгодным, выкліка-

каючы значнае і непрадукцыйнае зношваньне матэрыяльнай часткі. Большасьць звычак можа быць атрымана навучаньнем на трактары, неабходная-ж хуткасьць рэакцый можа быць разьвіта толькі навучаньнем язьдзе на аўтомобілі; таму навучаньне складаецца:

а) з навучаньня на трактарах і аўтомобілях, якое праводзіцца па асобнай праграме;

б) з папярэдняга навучаньня ўладаньню мэханізмамі кіраваньня на нярухомым танку (навучаньне на стэляжах, трэнажэрах);

в) з навучаньня тэхніцы ваджэньня танка і тэхніцы перасіленьня перашкод;

г) з навучаньня ваджэньню з улікам тактычнай абстаноўкі і разьвязваньня задачы танкам, і які дзейнічае ў складзе ўзводу пры тым або іншым разьмяшчэньні актыўных і пасыўных сродкаў супраціўленьня праціўніка.

**3.** Калі заняткі, якія вядуцца ў парадку п. п. **„а“ і „б“** артык. 2, носяць чыста тэхнічны характар і маюць мэтай выпрацаваць у вадзіцеля тэхнічна правільныя звычкі кіраваньня танкам у розных выпадках, дык заняткі згодна п. **„в“** артык. 2 павінны прывучыць вадзіцеля спалучаць тэхніку ваджэньня танка з умовамі баявой абстаноўкі. Вадзіцель павінен умець, вядучы танк да ўказанай мэты ці па ўказаным баявым курсе, ня толькі ўзгадняць свой рух з рухам усяго ўзводу, але і ўмець выбраць шлях свайго руху так,

каб праўдападобнасьць паражэньня танка агнём праціўніка была-б найменшай, а ўмомы вядзеньня з яго агню найвыгоднейшымі.

Такім чынам, вадзіцель павінен ня толькі весьці танк тэхнічна правільна, але і ўмець улічваць умовы мясцовасьці і агню праціўніка і яго распалажэньне, выходзячы з разьвязваемай танкам і танкавым узводам задачы.

4. Разьлік гадзін, які прыводзіцца ў пераліку практыкаваньняў, зьяўляецца сярэднім, з прычыны чаго навучаючым неабходна ўлічваць, што больш здольныя з навучаемых будуць усвойваць патрабуемае практыкаваньне ў меншы тэрмін, а менш здольныя—у большы; гэтым трэба ўмела карыстацца, разьмяркоўваючы час паміж тымі, хто навучаецца, так, каб у канчатковым рэзультаце ўсе ўсвоілі неабходныя звычкі.

5. На ўсіх занятках, у частцы пастраеньня танкаў, заправкі іх, парадку агляду і ўтрыманьня, абавязкаў асаблівага складу, каманд і сыгналаў, кіравацца існуючымі статутамі бронясіл РСЧА.

Камандзіры часьцей, у адпаведнасьці з мясцовымі ўмовамі і характарам заняткаў, выдаюць неабходныя інструкцыі аб парадку вядзеньня гэтых заняткаў, назначаючы, калі патрэбна, дзяжурнага па язьдзе.

6. Калі назначаецца дзяжурны па язьдзе, дык яго агульныя абавязкі наступныя:

а) паверка запраўкі і спраўнасьці танкаў (гатоўнасьць да заняткаў), а таксама падрыхтаванасьці вучасткаў для заняткаў;

б)назіраньне за агульным парадкам у часе язды і разьмеркаваньне вучасткаў паміж падразьдзяленьнямі або асобнымі танкамі;

в) прыняцьцё першых мер хуткай дапамогі ў выпадку аварый, пажару і няшчасных выпадкаў.

**7.** На занятках злучэньня ад роты і вышэй павінен прысутнічаць лекпом, а менш роты—санітар.

**8.** Пры вядзеньні заняткаў улічваць, што паказ ёсьць лепшае растлумачэньне, таму на словах тлумачыць толькі тое, што ня можа быць паказана; ад навучаемых патрабаваць не славесных тлумачэньняў, а правільнага выкананьня.

Папярэдняе растлумачэньне мэты заняткаў не павінна перавышаць 5 мінут на кожнае практыкаваньне. Занятак весьці па 50 мінут, пасьля чаго даваць перапынак на 10 мінут.

Да кіраваньня дзеяньнямі вадзіцеля сыгналамі прыбягаць з пачаткам язды, як толькі навучаемы ўсвоіць элемэнтарныя звычкі.

**9.** Трэба мець на ўвазе, што да навучаньня ваджэньню танка (пп „а“ і „б“ артык. 2) можна прыступіць па азнаямленьні з агульнай пабудовай танка і назначэньнем паасобных механізмаў.

Да пачатку-ж заняткаў, якія вядуцца ў парадку п. „в“ артык. 2, навучаемыя павінны ведаць як матэрыяльную часьць, так і адхіленьне самых простых няспраўнасьцяй.

## ПАПЯРЭДНЯЕ НАВУЧАНЬНЕ.

**10.** Заняткі праводзяцца на танку, паднятым на козлы, або на танку з разьяднанымі і зьнятымі вусенямі.

Мэта практыкаваньня—азнаямленьне з мэханізмамі кіраваньня танка і набыцьце элемэнтарных звычак у кіраваньні ўказанымі мэханізмамі як кожным у паасобку, так і ў паступовасьці, неабходнай для зруху з месца, руху і спыненьня.

> Увага. Для тых, хто прайшоў навучаньне на трактарах і аўтомобілях (арт. 2. ), абавязковымі зьяўляюцца практыкаваньні 4, 5 і 6.

### Кіраваньне счапленьнем.

**11.** Паказаць пэдаль счапленьня; растлумачыць яе прызначэньне і якой нагой ёю кіраваць; паказаць дзеяньне пэдалі так, каб навучаемы ўбачыў, што пры выключэньні счапленьня перадача ад матора да вусеня разьяднаецца.

Прадэманстраваць спыненьне вусеняў пры поўным выключэньні счапленьня.

Паказаць і растлумачыць, што адбываецца пры няпоўным выключэньні.

Пераканаўшыся, што навучаемы ўсё гэта зразумеў, пасадзіць яго на сядзеньне вадзіцеля і прапанаваць прарабіць усё гэта некалькі разоў самому. Назіраць за тым, каб навучаемы знаходзіў пэдаль счапленьня на вобмацак.

Калі навучаемы ўсвоіць тэхніку кіраваньня счапленьнем, пераходзіць да наступнага практыкаваньня.

**Кіраваньне пэдальлю аксэлератара.**

**12**. Паказаць навучаемаму месца знаходжаньня пэдалі аксэлератара, напомніць яго прызначэньне. *Указаць:* якой нагою кіраваць газам, сувязь аксэлератара з ручкай ручнога газу, паказаць дзеяньне абодвых мэханізмаў. Калі навучаемы ўцяміць, пасадзіць яго на сядзеньне вадзіцеля і прапанаваць прарабіць вышэйпаказанае самому некалькі разоў, дамагаючыся плаўнасьці паступовага павялічэньня і зьмяншэньня прыцёку сумесі (да сярэдніх абаротаў матора).

Пасьля ўсваеньня тэхнікі кіраваньня аксэлератарам пераходзіць да наступнага практыкаваньня.

**Уключэньне счапленьня з адначасовым павялічаньнем прыцёку сумесі (кіраваньне пэдальлю счапленьня і аксэлератара)**

**13**. Расказаць (напомніць), чаму перад

зрушэньнем з месца (да выключэньня счапленьня) неабходна павялічыць прыцёк газу (сумесі), дзейнічаючы на пэдаль аксэлератара, і на колькі.

Як вызначыць момант для ўключэньня счапленьня (па шуме, які робіць рухавік).

Растлумачыць (напомніць) неабходнасьць адначасовасьці плаўных уключэньняў счапленьня і павялічэньня прыцёку сумесі (левая нага плаўна ўключае счапленьне, адпускаючы пэдаль, правая—адначасова плаўна павялічвае прыцёк сумесі, націскаючы на пэдаль аксэлератара).

Калі навучаемы зразумее сутнасьць справы, пасадзіць яго на сядзеньне вадзіцеля і, шляхам паўторнага выкананьня практыкаваньня, дабіцца спакойнага, плаўнага і ўпэўненага выкананьня яго. Мець на ўвазе, што гэта практыкаваньне ўсвайваецца цяжка. Патрабаваць, каб навучаемы гаварыў, што ён робіць.

### Уключэньне і выключэньне 1-й хуткасьці з адначасовым павялічэньнем прыцёку сумесі (Зрух з месца і пачатак руху ўперад)

**14.** Паказаць месца знаходжаньня і прызначэньня вагара пераключэньня хуткасьцяй, растлумачыць (напомніць) прызначэньне кулісы; паказаць распалажэньне хуткасьцяй задняга ходу, халастога (нерабочага) ходу і прызначэньне апошняга.

Паказаць і растлумачыць (напомніць), што адбываецца ў каробцы хуткасьцяй (перадач) пры пастаноўцы тэй ці іншай хуткасьці або халастога ходу. Растлумачыць і паказаць, як трэба ўключаць хуткасьць (плаўнае спакойнае ўключэньне хуткасьці з папярэднім уключэньнем счапленьня, ня ўжываючы лішніх натуг).

Растлумачыць (напомніць), чаму нельга ўключаць хуткасьць, ня выключыўшы счапленьня. Растлумачыць і паказаць, як перайсьці з 1 й хуткасьці на халасты ход. Растлумачыць (напомніць) і паказаць паступовасьць дзеяньня пры зруху з месца і чаму пры гэтым трэба павялічыць прыцёк сумесі. Паказаць уключэньне і выключэньне хуткасьці. Калі навучаемы ўцяміць, пасадзіць яго на месца вадзіцеля і прапанаваць прарабіць усё самому, патрабуючы, каб ён гаварыў, што ён робіць. Напрыклад: „выключаю счапленьне, ўключаю 1-ю хуткасьць, павялічваю прыцёк сумесі (газ) і адначасова ўключаю счапленьне, зьмяншаю прыцёк сумесі да пастаяннай устаноўкі (адпускаючы аксэлератар), выключаю счапленьне, стаўлю халасты ход, выключаю счапленьне“.

Зьвяртаць увагу на суразьмернасьць вытрымкі паміж выключэньнем счапленьня і пастаноўкай 1 й хуткасьці і на прапорцыянальнасць павялічэньня сумесі пры ўключэньні счапленьня.

Дабіцца ад навучаемага беспамылковага, спакойнага і плаўнага (на вобмацак) выкананьня ўсіх дзеяньняў.

Гэта практыкаваньне зьяўляецца асноўным для усіх наступных.

**Уключэньне і выключэньне 1-й, 2-й і 3-й хуткасьцяй і пастаноўка халастога ходу**

**15.** Растлумачыць (напомніць), як уключаюцца 2-я і 3-я хуткасьці. Растлумачыць неабходнасьць хуткага пераходу з 2-й на 3-ю хуткасьць. Паказаць, як паступова пераключаюцца хуткасьці.

Калі навучаемы зразумее, пасадзіць яго на месца вадзіцеля і прапанаваць прарабіць вышэйпаказанае самому, патрабуючы, каб ён гаварыў, што робіць. Напрыклад: „выключаю счапленьне, уключаю 1-ю хуткасьць, павялічваю прыцёк сумесі (газ), адначасова ўключаю счапленьне, зьмяншаю газ, выключаю счапленьне, уключаю 2-ю хуткасьць, уключаю счапленьне“ і г. д.

Дабіцца ад навучаемага правільнай, спакойнай і ўпэўненай, бяз мітусяніны, перастаноўкі хуткасьцяй (бяз шуму зубчатак) у каробцы хуткасьцяй, ня гледзячы на мэханізмы.

**Пастаноўка задняга ходу**

**16.** Паказаць (напомніць), як уключаецца задні ход. Растлумачыць, што пасьлядоўнасьць дзеяньняў тая-ж самая, што і пры пастаноўцы 1-й хуткасьці.

Практыкаваньне праводзіцца прыстасавальна да практыкаваньня 4-га, неабходна толькі падкрэсьліць навучаемым, што ўключэньне задняга ходу робіцца пасьля поўнага спыненьня танка.

**Тармажэньне.**

**17.** Паказаць распалажэньне пэдалі нажнога тормазу і вагароў павароту. Напомніць пабудову мэханізмаў тармажэньня танка, паказаць іх дзеяньне.

Упэўніцца ў тым, што навучаемы зразумеў. Паказаць і растлумачыць пасьлядоўнасьць дзеяньняў пры прытармажваньні на хаду і для поўнай астаноўкі, дзейнічаючы нажным тормазам. Падкрэсьліць абавязковасьць плаўнага тармажэньня. Растлумачыць (напомніць) вынікі рэзкага тармажэньня.

Калі навучаемы зразумее, пасадзіць яго на месца вадзіцеля і прапанаваць выканаць указанае самому, патрабуючы, каб ён гаварыў, што робіць, напрыклад: „зьмяншаю газ, уключаю счапленьне, павялічваю газ, выключаю счапленьне, тармажу, машына спынілася, стаўлю халасты ход, адпускаю счапленьне“.

**Навучаньне тэхніцы ваджэньня і тэхніцы перасіленьня перашкод.**

**Рух 1-й хуткасьці**

**18.** Практыкаваньне мае на мэце навучыць правільна зрушваць танк з месца, весьці па прамой, правільна паварочваць і спыняць

танк пры руху на 1-й хуткасьці.

Да пачатку заняткаў неабходна прагрэць рухавік на месцы.

Рухацца на халоднай машыне нельга, бо рухавік ня будзе даваць поўнай патужнасьці, і счапленьне (дыскавае), працуючы ў халодным масьле, ня будзе выключацца, чаму правільная пастаноўка хуткасьцяй будзе немагчыма.

Невыкананьне ўказанага цягне за сабою дачаснае зношваньне шасьцерань каробкі хуткасьцяй і можа выклікаць паломкі.

Заняткі праводзяцца на роўным вучастку мясцовасьці. Рухацца на малым газе. На паваротах зьлёгка націскаць на аксэлератар, бо ў гэтым выпадку ад рухавіка патрабуецца большая патужнасьць.

Ручны газ павінен быць адрэгуляваны на мінімальныя абароты. У часе язды не дазваляць павялічваць ручны газ; карыстацца выключна аксэлератарам.

Выпераджэньне дазваляецца трымаць у пастаянным палажэньні, наданым пасьля заводкі рухавіка (але не на позьнім запальваньні).

Для зруху з месца і руху на 1-й хуткасьці патрэбна:

а) узяцца за вагар пераключэньня хуткасьцяй;

б) хутка выключыць счапленьне;

в) непасрэдна пасьля вышэй паказанага ва-

гар пераключэньня хуткасьцяй высунуць ў вырэз 1-й хуткасьці кулісы, ні ў якім разе ня ўжываючы залішняй натугі; калі шасьцярні няўключаюцца (зуб аказаўся супроць зуба), на момант выключыць счапленьне і зноў уключыць хуткасьць;

Увага: Зьвяртаць увагу на тое, каб вагар хуткасьцяй быў уціснуты ў вырэз колькі магчыма, бо ў іншым выпадку ш сьцярні будуць счапляцца ня поўным зубам, што можа выклікаць паломку Мець на увазе, што з прычыны адсутнасьці стопара (затрымача) на вагары пераключэньня хуткасьцяй з 1-й хуткасьці лёгка перакінуць вагар на задні ход.

г) спачатку хутка, а потым паволі адпускаць пэдаль счапленьня, адначасова плаўна націскаючы на пэдаль аксэлератара, каб танк бяз штуршка рушыў уперад.

Сачыць за тым, каб пры зруху з месца навучаемы не даваў лішніх абаротаў рухавіку.

Для павароту на 1-й хуткасьці патрэбна:

а) перад паваротам узяцца рукою за адпаведны вагар павароту;

б) зьлёгку прыбаўляючы газ, спачатку хутка, а затым плаўна пацягнуць вагар павароту да сябе;

Увага: Вагар прыціскаецца ў напрамку да вадзіцеля з большай ці меншай сілаю, у залежнасьці ад кручы павароту. Для таго, каб зрабіць круты паварот, вагар прыціскаецца з большаю сілаю, для п катата павароту—з меншай.

в) зрабіўшы паварот ( у залежнасьці ад грунту) на 30-35°, адпусьціць (ня зусім) вагар

павароту і, калі танк пройдзе па прамой прыблізна 0,5 *м*, вагар зноў узяць на сябе, як указана вышэй.

Вышэйуказаным парадкам можна рабіць павароты любой кручы.

Пры навучаньні паваротам, асаблівую ўвагу зьвяртаць на трэніроўку правядзеньня павароту пад прамым вуглом, зьвяртаючы пры гэтым увагу на дастатковую хуткасьць і плаўнасьць павароту.

Калі паварот робіцца на вялікі вугал (больш 30-35$^0$, у залежнасьці ад грунту) адразу (бяз руху ўперад), дык магчымы саскокваньне вусеня і пашкоджаньне ніжніх вальцоў з прычыны вялікага супраціўленьня павароту. Чым мягчэйшы грунт, тым больш пакатым павінен быць паварот. На паваротах сачыць, каб газ прыбаўляўся толькі на час, пакуль робіцца паварот.

Асаблівую ўвагу пры навучаньні зьвяртаць:

На ўменьне паставіць І-ю хуткасьць; на плаўнасьць руху з месца: а) каб счапленьне выключалася плаўна і дастаткова хутка; б) каб навучаемы прывыкаў увесь час прыслухоўвацца да работы рухавіка, назіраючы за аэротэрмомэтрам і маномэтрамі і ў той-жа час за шляхам руху; в) каб любой кручы павароты рабіліся плаўна і з рухам уперад, не дапускаючы ў той-жа час пераграваньня тармазоў; г) каб танк быў спынены ў дакладна ўказаным месцы і каб пры астаноўцы танка

быў сваячасова паменшан газ, выключана хуткасьць, заўважана паказаньне аэротэрмометра і масьлянага манометра; д) на бясшумнасьць пастаноўкі хуткасьці.

**Рух на 2-й хуткасьці.**

**19.** Задачамі навучаньня зьяўляюцца:

Навучыць плаўна зрушваць танк з месца, правільна весьці яго па ўказаным напрамку і рабіць павароты на 2-й хуткасьці, не заглушаючы рухавіка.

Навучаньне руху на 2-й хуткасьці адбываецца на роўным вучастку. Ручны газ, такжа сама, як і пры руху на 1-й хуткасьці, павінен быць адрэгуляваны на мінімальныя абароты рухавіка. У часе руху карыстаюцца толькі аксэлератарам. Рух пачынаць на 2-й хуткасьці, на якой і рухаюцца.

Перад пачаткам заняткаў інструктар сам паказвае тэхніку руху на 2-й хуткасьці, дабіваючыся ў далейшым, каб навучаемыя ў дакладнасьці рабілі паказаныя прыёмы.

Перш, чым пачаць рух на 2-й хуткасьці, трэба ўпэўніцца, што счапленьне выключаецца, для чаго, уключыўшы 1-ю хуткасьць, выключыць счапленьне; калі танк спыніцца, счапленьне выключаецца. Калі танк працягвае рух з выключаным счапленьнем, трэба прагрэць масла, для чаго, уключыўшы 1-ю хуткасьць і выключыўшы счапленьне, адзін з вагароў паварот ўзяць на сябе. Пасьля некалькіх такіх маніпуляцый, счапленьне будзе

выключацца. Сказанае ў пачатку навучаньня выконваецца інструктарам перад заняткамі.

Для пастаноўкі 2-й хуткасьці:

а) устанавіць ручны газ у палажэньне, адпавядаючае мінімальнаму ліку абаротаў рухавіка на халастым ходзе;

б) узяцца за вагар пераключэньня хуткасьцяй;

в) выключыць счапленьне;

г) калі перад гэтым рухавік меў вялікія абароты, дык, пацякаўшы некалькі сэкунд, каб шасьцярні ў каробцы хуткасьцяй зьменшылі вярчэньне, хуткім рухам паставіць вагар у палажэньне 2-й хуткасьці.

Калі рухавік перад уключэньнем 2-й хуткасьці меў нармальныя абароты, можна адразу пасьля выключэньня счапленьня (не націскаючы на аксэлератар) хуткім рухам паставіць 2-ю хуткасьць. Калі хуткасьць ня ўключаецца, уключыць счапленьне і, выключыўшы яго, ставіць хуткасьць зноў.

д) Уключыўшы хуткасьць, зьлёгку націскаючы на аксэлератар, плаўна ўключыць счапленьне і рушыць з месца.

Пры навучаньні трэба паўтараць уключэньне 2-й хуткасьці і рушэньне з месца (на ёй) да тэй пары, пакуль ня будуць атрыманы зусім здавальняючыя звычкі.

**Увага**: Не дапускаць пастаноўкі занадта павялічанага ручнога газу для засьцярогі ад заглуханьня рухавіка пры язьдзе на 2-й хуткасьці

Каб ня глушыць рухавік у час руху 2-й хуткасьці, навучаемы павінен прывыкнуць, у залежнасьці ад профілю шляху і грунту, правільна рэгуляваць патужнасьць рухавіка, дзейнічаючы аксэлератарам.

Для руха па ўказаным напрамку неабходна навучыцца сваячасова рабіць павароты строга неабходнай кручы з улікам якасьці грунту.

Для плаўнага (бяз ірваньня і лішняй раскачкі танка) павароту трэба:

а) узяцца рукою за вагар павароту;

б) прыбавіць газ (аксэлератарам) і збольшай ці меншай (у залежнасьці ад кручы патрабуемага павароту) напружанасьцю узяць вагар павароту на сябе.

Пры навучаньні асаблівую ўвагу зьвяртаюць на навучаньне паваротам на 90$^0$, зьвяртаючы ўвагу на іх хуткасьць і правільнасьць.

Набыцьцё здавальняючых звычак у выкананьні паваротаў і руху на 2-й хуткасьці вызначаецца ўменьнем трымацца ўказанага напрамку, адсутнасьцю ірваньня і лішніх раскачваньняў танка пры паваротах, суразьмернасьцю абаротаў рухавіка, дастатковай хуткасьцю паваротаў.

**Рух на 2-й і 3-й хуткасьцях.**

**20.** Задачамі навучаньня зьяўляюцца:

Для вадзіцеля:

а) навучыць правільна ўключаць 3-ю хуткасьць і з 3-й хуткасьці пераходзіць на 2-ю;

б) навучыць захоўваць указаны напрамак у часе руху на 3 й хуткасьці;

в) набыць пачатковыя звычкі ваджэньня танка, назіраючы праз назіральныя шчыліны;

г) набыць пачатковыя звычкі правільнага ваджэньня танка пры стральбе з яго;

д) даць практыку язды ў супроцьгазах;

Для камандзіра:

а) даць практыку ў назіраньні за наўкольнай мясцовасьцю;

б) даць практыку ў наводцы з танка ў часе руху;

в) даць практыку ў кіраваньні танкам з сярэдзіны яго,

Да навучаньня ваджэньню на 2-й і 3-й хуткасьцях пераходзіць пасьля атрыманьня здавальняючых звычак кіраваньня танкам на 2-й хуткасьці.

З навучаньнем руху на 2-й і 3-й хуткасьцях павінна быць злучана набыцьцё пачатковых звычак у ваджэньні танка з улікам патрабаваньняў вядзеньня агню—для вадзіцеля, а для камандзіра танка—у наводцы з рухомага танка і назіраньні за наўкольнай мясцовасьцю.

Для заняткаў выбіраецца роўны вучастак мясцовасьці, які разьмерам дапускае рух танкаў на 3-й хуткасьці і наводку на мішэнях на адлегласьці ня менш 100 *м*.

На выбраным вучастку павінны быць расстаўлены рэзка прыкметныя мішэні ў дастатковай колькасьці (шчыты з чорным яблыкам пасярэдзіне).

Перад яздой павінен быць паказ тэхнікі ваджэньня на 2-й і 3-й хуткасьцях. У пачатку навучаньня, інструктар знаходзіцца ўнутры танка, назіраючы за работай навучаемага і даючы яму патрэбныя ўказаньні. Калі навучаемы атрымае некаторую звычку ва ўключэньні 2-й і 3-й хуткасьцяй, а таксама звычку кіраваньня танкам на гэтых хуткасьцях, інструктар павінен знаходзіцца знадворку танка, а месца ў баявой вежы займае камандзір танка для навучаньня назіраньню і наводцы з рухомага танка і кіраваньню ім.

У часе заняткаў з інструктарам унутры танка пярэдні шчыток павінен быць адкрыты.

У далейшым, навучаньне адбываецца з закрытым шчытком, і вадзіцель назірае за шляхам руху праз назіральныя шчыліны пярэдняга шчытка. Рух робіцца ў напрамку, указаным камандзірам танка ў залежнасьці ад выбранай для абстрэлу цэлі, аднолькава як і зьмена напрамку для звароту ў выходнае палажэньне, прычым каманды вадзіцелю перадаюцца камандзірам танка, кіруючыся § 27 БСБ ч. I.

У часе руху да цэлі вадзіцель павінен так выбіраць шлях і так весьці танк, каб, вы-

трымліваючы заданы напрамак (курс), разам з тым ўхіляцца лішніх штуршкоў і паваротаў, палягчаючы гэтым вядзеньне агню. Пасьля аднаго—двух прабегаў танка да цэлі і назад інструктар павінен спыніць танк і прапанаваць камандзіру танка ўказаць вадзіцелю ўсе яго дзеяньні, якія затруднялі наводку на хаду. Пасьля гэтага інструктар дае неабходныя ўказаньні вадзіцелю, і заняткі працягваюцца ранейшым парадкам.

Для зруху з месца:

а)паставіць 2-ю хуткасьць, як указана вышэй (рух павінен пачынацца з 2-й хуткасьці).

б) даць разгон танку і перайсьці да руху на 3-ю хуткасьць.

Уключэньне 3-й хуткасьці (на хаду) робіцца наступным парадкам:

а) узяцца рукою за вагар пераключэньня хуткасьцяй;

б) націснуўшы на аксэлератар, даць разгон танку;

в) хутка ўключыць счапленьне, адначасова зьменшыўшы газ да мінімуму (спыніўшы націск на аксэлератар), і хутка пераставіць вагар у прарэз, адпавядаючы хуткасьці;

г) націснуўшы на аксэлератар, адначасова хутка ўключыць счапленьне.

**Увага.** Ручны газ, як і вышэй, павінен быць адрэгуляваны на мінімальны лік абаротаў рухавіка.

Калі пры язьдзе на 3-й хуткасьці рухавік пачынае глухнуць (рэзка зьмяншаецца лік абаротаў рухавіка), дык перайсьці на 2-ю хуткасьць, для чаго:

а) узяцца за вагар пераключэньня хуткасьцяй;

б) даць танку зьменшыць ход. Хутка выціснуць счапленьне, адначасова спыніўшы націск на аксэляратар, і хутка перасунуць вагар хуткасьцяй з вырэзу 3-й хуткасьці ў вырэз 2-й хуткасьці;

в) плаўна і хутка ўключыць счапленьне, адначасова націскаючы на аксэлератар.

Як толькі танк разаўе хуткасьць, паказаным раней парадкам, перайсьці да руху на 3-й хуткасьці.

**Увага:** Калі, не чакаючы зьмяншэньня руху танка, уключыць 2-ю хуткасьць і рэзка ўключыць счапленьне, адбудзецца рэзкае тармажэньне руху.

У тых выпадках, калі неабходна перайсьці з 3-й на 2-ю хуткасьць, не чакаючы зьмяншэньня руху танка, пераход на 2-ю хуткасьць можа быць зьдзейсьнены наступным парадкам:

а) выключыць счапленьне і паставіць вагар хуткасьцяй у палажэньне халастога ходу;

б) уключыць счапленьне і лёгка націснуць на аксэлератар (зроўніваючы хуткасьці вярчэньня шасьцерань каробкі хуткасьцяй, якія трэба счапіць);

в) зноў выключыць счапленьне і паставіць вагар хуткасьцяй у палажэньне 2-й хуткасьці;

г) уключыць счапленьне, прыбаўляючы газ, як указана вышэй.

Апошнія 5-10 мін. навучаемыя (вадзіцель і камандзір танка) практыкуюцца ў кіраваньні танкам у супроцьгазе, для чаго:

Па камандзе „газы“ вадзіцель, упэўніўшыся, што на шляху руху няма перашкод, надзявае супроцьгаз, павялічваючы націск на аксэлератар. У адваротным выпадку вадзіцель выключае счапленьне, аднімае нагу ад аксэлератара і адначасова надзявае супроцьгаз. Камандзір танка, надзеўшы супроцьгаз, працягвае наводку.

Здавальняючыя звычкі ў ваджэньні танка на 2-й і 3-й хуткасьцях вызначаюцца:

а) уменьнем утрымліваць напрамак, даны камандзірам танка (БК);

б) уменьнем выбраць шлях руху так, каб ухіліцца ад лішніх штуршкоў і рэзкіх паваротаў танка;

в) выкананьнем толькі строга неабходных паваротаў бяз лішніх штуршкоў і раскачкі танка;

г) суразьмернасьцю ліку абаротаў рухавіка;

д) правільнасьцю і своечасовасьцю пераходу да руху на 2-й хуткасьці, і наадварот.

## РУХ ЗАДНІМ ХОДАМ.

**21.** Задачамі навучаньня зьяўляюцца:

а) навучыць правільна ўключаць задні ход;

б) даць звычкі ваджэньня танка заднім ходам па сыгналах; задні ход уключаецца толькі на месцы ці пасьля поўнай астаноўкі танка.

Для выключэньня задняга ходу трэба:

а) узяцца за вагар пераключэньня хуткасьцяй.

б) выключыць счапленьне;

в) вагар пераключэньня хуткасьцяй усунуць у вырэз для задняга ходу;

г) плаўна ўключаць счапленьне, адначасова павялічваючы прыдёк сумесі, зьлёгку націскаючы на аксэлератар.

Камандзір танка назірае праз заднія шчыліны і з дапамогаю сыгналаў (§ 27 БСБ, ч. I) кіруе танкам.

Пры правядзеньні заняткаў інструктар знаходзіцца перад танкам і ў патрэбных выпадках накіроўвае рух з дапамогаю сыгналаў, згодна § 26 БСБ.

## РУХ НА ПАД'ЁМАХ І СПУСКАХ.

**22.** Вучастак для язды выбіраецца з разьлікам, каб на ім былі пад'ёмы кручаю прыккладна $15^0$ і $30^0$ і працяжэньнем ня менш 5 *м*

Пад'ёмы і спускі павінны быць з цьвёрдым дзярновым пакрыцьцём.

Мэтаю навучаньня зьяўляецца:

а) усвоіць правілы руху на пад'ёмах і спусках;

б) набыць пачатковыя звычкі кіраваньня танкам пры руху на пад'ёмах і спусках.

Перад пачаткам заняткаў інструктар растлумачвае навучаемаму правілы ваджэньня танка на пад'ёме і спуску. У пачатку навучаньня пярэднія дзьверцы і шчыток танка павінны быць адчынены, пазьней дзьверцы і шчыток зачыняюцца, і вадзіцель вядзе назіраньне толькі праз назіральныя шчыліны.

Навучаньне адбываецца спачатку на 1-й, а потым на 2-й хуткасьцях на пад'ёмах (спусках) пасьлядоўна 15° і 30°. Рух адбываецца па даным напрамку. Трэба трэніраваць у зьмене напрамку па сыгналах (§ 26 БСБ, ч. I), якія падае інструктар знадворку. Гэтыя сыгналы прымаюцца камандзірам танка і перадаюцца вадзіцелю парадкам, указаным у § 27 БСБ, ч. I.

Тэхніка кіраваньня танкам:

Перад пад'ёмам павінна быць уключана тая хуткасьць, на якой можа быць узяты пад'ём без пераходу на ніжэйшую хуткасьць. Танк пад прамым вуглом узьяжджае на спад і, вышаўшы на гарызонтальны вучастак, паварочвае кругом і пад прамым-жа вуглом зьяжджае ўніз.

Як правіла, рух на пад'ём і спуск павінен адбывацца на аднэй і тэй-жа самай хуткасьці. Чым больш круты пад'ём ці спуск, тым на больш ніжэйшай хуткасьці іх трэба браць. Пры спуску вялікага працяжэньня неабходна

ўжываць тармажэньне рухавіка, для чаго, ня ўключаючы счапленьня, спыніць націск на аксэлератар.. З памяншэньнем перадачы, тармазаячыя дзеяньні рухавіка павялічваюцца. Выключаць запальваньне пры спуску ня можна, бо паступаючая ў цыліндр сумесь будзе ўжываць змазку са сьценак цыліндра і выклікаць выбухі ў глушыцелі.

Калі рухавік на пад'ёме заглухне, неабходна спыніць танк, хутка ўзяўшы вагары павароту на сябе. Для заводкі рухавіка неабходна:

а) утрымліваючы танк на месцы вагарамі павароту, зьняць правую нагу з аксэлератара і націснуць ёю на пэдаль нажных тармазоў, пасьля чаго адпусьціць вагары павароту;

б) выключыць счапленьне і паставіць вагар пераключэньня хуткасьцяй на халасты ход;

в) націснуўшы на кнопку стартэра, завесьці рухавік;

г) уключыць меншую хуткасьць, чым тая, на якой перад гэтым рухаўся танк;

д) зноў узяць вагары павароту на сябе, а правую нагу перанесьці на аксэлератар;

е) плаўна ўключыць счапленьне, адначасова прыбаўляючы газ і адпускаючы вагары павароту.

Да перасіленьня пад'ёму, хуткасьць не пераключаць.

У выпадку заглуханьня рухавіка на пакатым спадзе (пад'ёме) паступаць, як указана

вышэй, але нажным тормазам можна не тармазіць, а спыніўшы танк і дзейнічаючы на вагары паваротаў:

а) адпусьціць правы вагар і, выключыўшы счапленьне, паставіць вагар пераключэньня хуткасьцяй на халасты ход;

б) завесьці рухавік з дапамогаю стартэра;

в) уключыць меншую перадачу, чым тая, на якой рухаўся танк, і, плаўна уключаючы счапленьне, націскаць на аксэлератар, адпускаючы адначасова вагар павароту.

Калі неабходна спусьціцца з пад'ёму заднім ходам, дык трэба:

а) выключыць счапленьне і адначасова ўзяць вагары павароту на сябе;

б) нагу з аксэлератара перанесьці на пэдаль нажнога тормазу і націснуць апошнюю (затармазіць);

в) адпусьціўшы правы вагар павароту, уключыць заднюю хуткасьць;

г) зноў узяць правы вагар на сябе і перанесьці нагу на аксэлератар;

д) плаўна ўключыць счапленьне, зьлёгку націскаючы аксэлератар і адпускаючы (аднačасова) вагары павароту.

Калі танк пры спуску пачынае рухацца занадта хутка, спыніць націск на аксэлератар, і, у выпадку неабходнасьці, прытармажваць танк, дзейнічаючы на вагары павароту.

Паваротаў на спусках і пад'ёмах—больш як на 15°—ухіляцца.

## Перасіленьне акопаў.




Схэма № 1.

Перасіленьне танкамі акопаў.

**23**. На вучастку для правядзеньня заняткаў павінны быць зроблены акопы, прыкладна, як указана на схэме № 1, рознай профілі (для стральбы з калена, стоячы, са дна рову і поўнай профілі).

Мэтаю навучаньня зьяўляецца:

а) усваеньне прыёмаў перасіленьня акопаў рознай профілі, набыцьцё звычак кіраваньня танкам пры перасіленьні іх;

б) трэніроўка ў назіраньні з танка і кіраваньні ім на сыгналах.

Навучаньне трэба пачынаць з перасіленьня акопаў меншай профілі, паступова пераходзячы да перасіленьня акопаў поўнай профілі.

Апошнія 5—10 мін. заняткі весьці у супроцьгазах.

Перад пачаткам заняткаў навучаемым тлумачацца правілы і паказваюцца прыёмы

перасіленьня акопу. У пачатку навучаньня інструктар знаходзіцца ў сярэдзіне танка і кіруе дзеяньнямі навучаемага. Калі навучаемы атрымае пачатковыя звычкі, замест інструктара ў баявую вежу танка садзіцца камандзір танка для папярэдняга азнаямленьня з тэхнікай перасіленьня акопу. Спачатку навучаньне праводзіцца з адчыненым напалову пярэднім шчытком, а ў далейшым шчыток павінен быць зачынен, і вадзіцель назірае праз назіральныя шчыліны. Рух танка адбываецца па ўказаным напрамку, і кіраваньне зьменаю напрамку ажыцьцяўляецца з дапамогаю сыгналаў, як указана вышэй.

Для перасіленьня акопу патрэбна:

а) пад прамым вуглом шчыльна падыйсьці да акопу на тэй хуткасьці, на якой танк рухаўся перад гэтым;

б) перайшоўшы на 1-ю хуткасьць, пад прамым вуглом, узьяжджаюць на бруствэр. Па меры пад'ёму танка і зьмяншэньня нахілу яго, зьмяншаць націск на аксэлератар;




Схэма № 2.
Перасіленьне танкам вартыкальнай сьценкі

в) у момант пераналу праз грабень бруствэра спыніць націск на аксэлератар;

г) Для перасіленьня задняй крутасьці акопу, зноў націснуць на аксэлератар;

д) пасьля пераходу праз акоп, перайсьці да руху на 2-й хуткасьці і, даўшы разгон танку, перайсьці да руху на 3-й хуткасьці.

Пры перасіленьні акопу зьвяртаць увагу на суразьмернасьць ліку абаротаў рухавіка (правільнасьць кіраваньня аксэлератарам).

**Перасіленьне вэртыкальнай сьценкі.**

**24.** Для заняткаў павінна быць пабудавана сьценка згодна схэмы № 2.

Напрамак руху танка ўказан стрэлкаю на схэме.

Мэтай заняткаў зьяўляецца выпрацоўка звычак у правільным перасіленьні вэртыкальных перашкод.

Перад заняткамі, навучаемым павінны быць растлумачаны і паказаны прыёмы перасіленьня вэртыкальных перашкод (сьценкі).

Вышыня сьценкі павінна быць: у пачатку навучаньня адна шпала, потым, па меры набыцьця звычак—дзьве, паложаных адна на адну, шпалы.

Тэхніка перасіленьня перашкоды:

а) падыйсьці да сьценкі на тэй хуткасьці, на якой перад гэтым рухаўся танк;

б) перад перашкодай перайсьці на 1-ю хуткасьць, браць перашкоду пад прамым вуглом;

**Увага:** Ногі трымаць на пэдалях счапленьня і аксэлератара, а рукі—на вагарох павароту.

в) у той момант, калі танк пачне пераварвацца пярэдняй часткай праз сьценку, хутка выключыць счапленьне і, узяўшы вагары павароту на сябе, плаўна апусьціць танк;

г) як толькі танк дакранецца пярэдняй часткаю да зямлі, адпусьціць вагары павароту і ўключыць счапленьне;

д) перасіліўшы перашкоду, перайсьці да руху на 2-й, а потым і на 3-й хуткасьці.

Пры выкананьні практыкаваньня асаблівую ўвагу зьвяртаць:

а) каб пры пераезьдзе праз сьценку не давалася-б лішніх абаротаў рухавіка;

б) каб пры перавале праз сьценку ня было моцных удараў танка аб зямлю (што залежыць толькі ад умелага кіраваньня газам і своечасовасьці тармажэньня вагарамі павароту);

в) каб пасьля перавалу танк неадкладна пачаў рух;

г) каб перашкода перасільвалася дастаткова хутка.

Заняткі праводзяцца пасьлядоўна:

а) з адкрытым (напалавіну) шчытком вадзіцеля;

б) з закрытым шчытком;

в) з закрытым шчытком і ў супроцьгазе на працягу каля 5 мінут.

**Перасіленьне драцяной сеткі.**

**25.** Драцяная сетка ў 2 калы і праробленьне праходаў у ёй свабодна перасільваюцца танкам як на 1-й, так і на 2-й хуткасьцях, прычым танк робіць чысты праход каля 2-3 *м* шырынёю.

Перасільваць драцяную сетку ў 3 калы і больш трэба на 1-й хуткасьці, пераходзячы на яе непасрэдна перад сеткаю.

Для праробленьня больш шырокіх праходаў у драцяной сетцы, належыць перасільваць яе зыгзагамі.

Для заняткаў павінны быць пабудаваны драцяныя загароды розных тыпаў (на кольлях, малапрыкметныя і г. д.).

Драцяныя загароды павінны быць пабудаваны дакладна, згодна адпавядаючага падручніка. У праціўным выпадку ў навучаемых могуць скласьціся зусім няверныя ўяўленьні аб уласьцівасьцях танка.

Прыкладнае абсталяваньне вучастку для заняткаў указана на схэме № 3.

Парадак вядзеньня заняткаў наступны:

а) інструктар знаёміць навучаемых з абсталяваньнем вучастку для язды і дае кароткую характарыстыку кожнага тыпу драцяной загароды, як перашкоды для танка;

б) тлумачыць правілы перасіленьня кожнага з тыпаў драцяных загарод, паказвае прыёмы перасіленьня іх і дае неабходныя тлумачэньні навучаемым. Па выкананьні ўказанага, навучаемыя самі практыкуюцца ў перасіленьні загарод.




**Схэма № 3. Перасіленьне танкам драцяной сеткі.**

**Увага:** Заняткі па перасіленьні драцяных загарод пры недахопе матэрыялаў або пры вялікім ліку навучаемых могуць праводзіцца паказным парадкам.

## ПРАКТЫКАВАНЬНІ Ў ВАДЖЭНЬНІ ТАНКА З УЛІКАМ УПЛЫВУ ТАКТЫЧНАЙ АБСТАНОЎКІ.

**26.** Практыкаваньні ў ваджэньні танка з улікам тактычнай абстаноўкі маюць на мэце навучыць вадзіцеля правільна весьці танк у складзе ўзводу, улічваючы ўплыў тых ці іншых сродкаў пасыўнага або актыўнага супраціўленьня праціўніка.

З гэтым практыкаваньнем і павінны быць злучаны практычныя практыкаваньні ў стралковай выведцы, назіраньні за полем боя, вызначэньні выходных даных і наводцы прыстасавальна да ўказаньняў § § 273—275 „Падручніка па стралковай падрыхтоўцы“.

Таму заняткі павінны праводзіцца на фоне нескладанай, тактычнай задачы ўзводу танкаў, пабудаванай так, каб не затушоўваць тэхнічнай сутнасьці практыкаваньняў.

**27**. Для заняткаў выбіраецца вучастак мясцовасьці, па разьмерах рэльёфу дазваляючы распалажыць на ім, прыкладна, ротны раён абароны (ротны пункт) з рознастайным, па магчымасьці, характарам грунту і дастатковай колькасьцю мясцовых прадметаў, палягчаючых орыентаваньне. На выбраным вучастку намячаецца распалажэньне працiўніка, ставяцца мішэні, выкопваюцца акопы і робяцца перашкоды.

**28**. Для заняткаў выводзіцца ўзвод танкаў штатнага складу, прычым кіраваць заняткамі павінен або камандзір ўзводу або спэцыяльна прызначаная асоба з ліку страявых камандзіраў (у выпадку неабходнасьці, на ўзвод могуць быць прызначаны 2 кіраўнікі). Спэцыяліст-тэхнік (інструктар) толькі ацэньвае дзеяньні (памылкі) вадзіцеляў з пункту погляду тэхнікі ваджэньня танкаў і дае неабходныя ўказаньні тэхнічнага характару па уз

гадненьні тэхнічных прыёмаў з баявымі патрабаваньнямі.

**29.** Прыкладная тэма і парадак практыкаваньняў наступныя:

Узвод на выходнай пазыцыі ў кустах (схэма № 4) мае задачу ад камандзіра стралковага батальёну:

а) Праціўнік сілаю каля роты ў акопах (указаць характар збудаваньняў праціўніка) займае вышыні з елкаю, з кустоўнікам і 113,2; кулямёты выяўлены на вышыні 113,2 і вышыні з кустамі; магчыма знаходжаньне батальённай пушкі ў кустох за вышынёй 113,2.

б) Узводу:

1) прарабіць праходы ў дроце (дзе, колькі);

2) перасіліўшы супраціўленьне праціўніка, сабрацца каля в. Горкі, дзе будзе пастаўлена новая задача. У вышыні з кусьцікам і 113,2 атакуе 1-я і вышыню з елкаю—2-я рота.

Камандзір узводу, ў разьвіцьцё загаду камандзіра батальёну, аддае наступныя распараджэньні:

а) баявы курс узводу—вышыня з кусьцікам—вышыня 113,2—вёска Горкі.

б) І-му аддзяленьню змагчы супраціўленьне і агонь кулямёта у акопа на ўсходніх і заходніх спадах вышынь з кусьцікам і 113,2.

2 му аддзяленьню змагчы супраціўленьне і агонь у акопах на пярэдніх спадах і вышыні з елкаю

Задача можа быць пастаўлена і кожнаму танку.




Схэма № 4. Практыкаваньні ў ваджэньні танкаў з улікам тактычнай абстаноўкі.

Я атакую акопы на заходніх спадах вышыні з кусьцiком і 113,2.

Мець на увазе магчымасьць знаходжаньня батальённай пушкі за вышынёю 113,2.

в) Зборны пункт-у садзе ў в. Горкі.

г) Рух у атаку па сыгнале флажком „Рабі, што я".

На падставе атрыманага загаду, камандзір, напрыклад, 2 га танка дае наступныя ўказаньні вадзіцелю:

а) „да дроту—рух поўным ходам, напрамак на правы край кустоў, я страляю на хаду";

б) пасьля перэсіленьня дроту-напрамак ранейшы, стральба з кароткіх прыпынкаў, на вышыні зьменшыць ход, абыйсьці акопы ў тыл зьлева;

в) ад кустоў—напрамак на тую вышыню (указаць), стральба з кароткіх прыпынкаў па маім сыгнале (§ 27 БСБ, ч. I), на вышыні зьменшыць ход, абыйсьці акопы ў тыл зьлева;

г) за вышынею (113,2[1]) напрамак на в. Горкі, рух поўным ходам, зыгзагам: „я буду страляць на хаду".

**30.** Упэўнішыся, што ўсе неабходныя распараджэньні зроблены і іх зразумелі, камандзір узводу (кіраўнік) загадвае заняць месца („па мясцох") і падае сыгнал для руху ў атаку.

---

[1]) Дапускаецца, што яна відаць з выходнага палажэньня.

**31**. Камандзір узводу (кіраўнік) у часе руху назірае за дзеяньнем навучаемых праз адкінуты калпак, а інструктар,-седзячы на хвасьце танка камандзіра ўзводу.

Пасьля збору танкаў, заслухаўшы даклады камандзіраў танкаў прыстасавальна да ўказаньняў § 273 „Падручніка па стралковай падрыхтоўцы“, камандзір узводу (кіраўнік) павінен указаць навучаемым усе заўважаныя ім памылкі, а інструктар—растлумачыць тэхнічныя прычыны іх, калі яны былі.

Камандзіры танкаў павінны ўказаць вадзіцелям на ўсе іх дзеяньні, якія перашкаджалі стральбе ці якія ставілі танк у нявыгоднае палажэньне, а інструктар у гэтым выпадку абавязан растлумачыць, а, калі патрэбна, дык і прадэманстраваць прычыны і указаць, як гэтага ўхіліцца.

**32**. Пры правядзеньні заняткаў, зьвяртаць увагу:

а) на ўказаньні, якія дае камандзір танка вадзіцелю, і дзеяньні яго па кіраваньні танкам і вядзеньні агню;

б) на правільнасьць выбару вадзіцелем шляху руху танка і на адпаведнасьць яго указаньням камандзіра танка, патрабаваньням маскіроўкі і стральбы;

в) на тэхніку кіраваньня танкам і тэхніку перасіленьня перашкод;

г) на ўзгодненасьць дзеяньняў вадзіцеля з камандзірам танка.

**33**. Пры руху для стральбы з кароткіх прыпынкаў кіравацца ўказаньнем § 194 „Падручніка па стралковай падрыхтоўцы“, а пры руху са стральбою на хаду патрабаваць, каб навучаемыя практыкаваліся ў руху са зьмяншэньнем ходу на момант стрэлу.

**34**. Карысна практыкаваньні, падобныя да вышэйпаданых, прапрацаваць перад гэтым на занятках без матэрыяльнай часьці, асабліва ў пачатку навучаньня, разьвязваючы на мясцовасьці-ж усе труднасьці тактычнага або тэхнічнага характару, якія могуць узьнікнуць у навучаемых.

**35**. Калі заняткі з матэрыяльнай часьцю выявяць грубыя памылкі навучаемых, дык карысна заняткі паўтарыць у тэй-жа абстаноўцы, памяняўшы танкі месцамі.

**36**. На практыкаваньні ў руху ноччу, ў туман, у дыму і па балоцістай мясцовасьці асобнага часу не адводзіцца: гэтыя заняткі павінны праводзіцца адначасова або на тактычных занятках, або пры руху ў раёны іншых заняткаў.

Ніжэй даюцца ўказаньні для іх правядзеньня.

## РУХ НОЧЧУ.

**37**. Гэтыя заняткі павінны быць сумешчаны з выездам на тактычныя або іншыя заняткі.

Тэхнічныя ўказаньні:

а) Рух у сьветлыя ночы праводзіцца такжа сама, як і ўдзень.

б) Пры руху ў цёмную ноч, але на знаёмых шляхох ці мясцовасьці, якая ня мае перашкод, пагражаючых танку аварыяй, і пры ўмовах, што можна карыстацца вялікім сьвятлом фар, рух адбываецца на **2-й і 3-й** хуткасьцях з павялічанымі дыстанцыямі паміж танкамі.

Наперадзе калёны танкаў мае сэнс пусьціць легкую машыну.

Кіраваньне на маршы (каманды) адбываецца шляхам сьветлавых сыгналаў. Сыгналы падаюцца або з легкавой машыны, або з камандзірскага танка, для чаго можа быць скарыстана пераносная лямпачка.

в) Пры руху цёмнай ноччу па незнаёмай мясцовасьці, а таксама пры ўмовах, што можна карыстацца толькі малым сьвятлом фар— рухацца на **2-й** хуткасьці пры нармальнай дыстанцыі паміж танкамі.

У абодвых апошніх выпадках начнога руху заднія ліхтары танкаў павінны быць запалены.

г) Пры руху цёмнай ноччу без сьвятла па незнаёмай мясцовасьці, рухацца таксама на **2-й** хуткасьці. Наперадзе кожнага танка павінен ісьці яго камандзір, які ўказвае на-

прамак руху (голасам або з дапамогаю ручнога ліхтара).

## РУХ У ДЫМАВОЙ ЗАСЛОНЕ.

**38**. Заняткі сумяшчаюцца з тактычнымі заняткамі.

Асабліувую ўвагу пры руху ў дымавой заслоне неабходна зьвярнуць на тое, каб ня зьбіцца з паказанага напрамку.

Меры для ўтрыманьня напрамку:

а) вадзіцелю ўказваецца які небудзь высокі прадмет, як орыентыр, які ў некаторыя моманты можа быць заўважан пры руху (асобнае дрэва, вугал лесу, званіца і г. д);

б) перад пачаткам руху заўважаюцца на зямлі якія небудзь характэрныя орыентовачныя асаблівасьці (канава, бугор, лагчына і г. д.),

в) вадзіцель перад пачаткам руху праз заслону разьлічвае рух па часе, вызначаючы моманты дасягненьня таго або іншага орыентовачнага пункту (прадмета);

г) напрамак руху танка ўказвае хто-небудзь (пяхота).

д) напрамак вытрымліваецца пры дапамозе компаса.

У пэрыод навучаньня, навучаемым неабходна даць практыку вядзеньня танка ў дымавой заслоне з закрытымі шчыткамі і ў супроцьгазе.

## РУХ У ТУМАНЕ.

**39**. У залежнасьці ад гушчыні туману рух адбываецца ці як ноччу, ці як у дымавой заслоне. Меры для забесьпячэньня ўтрыманьня напрамку руху—тыя-ж самыя, што ўказаны ў папярэднім параграфе.

## РУХ ПА БАЛОЦІСТАЙ МЯСЦОВАСЬЦІ.

**40**. Заняткі сумяшчаюцца з тактычнымі заняткамі.

Пры руху па балоцістай мясцовасьці неабходна сачыць, каб танк не заграз.

Меры папярэджаньня:

а) рух па балоцістай мясцовасьці павінен адбывацца з выведкай, якая папераджвае;

б) пры руху калёны кожны танк не павінен ісьці па сьледзе ідучага наперадзе.

в) на грузкіх мясцох не рабіць паваротаў, выбіраючы вучасткі з цьвёрдым грунтам.

## ПАГРУЗКА ТАНКА НА ПРЫЧЭПКУ АБО ПЛЯЦФОРМЫ І ГРУЗАМАШЫНЫ.

**41**. Да заняткаў навучаемыя павінны ведаць зьмешчанае ў БСБ, ч. 1-я, кн І, 1929 г. стар. 86-38

Перад пачаткам заняткаў інструктар абавязан напомніць і паказаць пагрузку танка на прычэпку.

Для паказу, інструктар:

а) садзіцца ў танк і, уключыўшы заднюю хуткасьць, павольна узьяжджае задам на сходах на прычэпку

б) паставіўшы танк на пляцформу прычэпкі, інструктар вылязае з танка, растлумачвае і паказвае навучаемым парадак замацаваньня танка на пляцформе (рухавік павінен быць спынен, уключана задняя хуткасьць і затармажаны вусені нажным тормазам. Пад вусені, сьпераду і ззаду танка, павінны быць падложаны кліны). Па выкананьні, выняўшы кліны, інструктар садзіцца ў танк і на 1-й хуткасьці зьяжджае з прычэпкі. Сыгналы, у адпаведнасьці з разьдзелам III і дадаткам 1 да БСБ, ч. I, інструктару дае адзін з навучаемых па назначэньні.

Пасьля паказу інструктара, навучаемыя па чарзе нагружаюць і згружаюць танк у паказаным вышэй парадку. Роля сыгналістаў выконваецца імі па чарзе.

**УВАГА.** Пры правядзеньні пагрузкі загадзя правяраюцца замацаваньне і спраўнасьць пляцформы і сходняй. Зьвяртаецца ўвага на тое, каб пры правядзеньні заняткаў на сходнях не засталіся людзі. (на выпадак скочваньня танка ўніз).

## ПАГРУЗКА ТАНКА НА ЧЫГУНАЧНУЮ ПЛЯЦФОРМУ

**42**. Пагрузка выконваецца ў адпаведнасьці з указаным у дадатку 1 да БСБ, ч. 1-я, кн. 1, 1929 г.[1])

Заняткі пачынаюцца паверкаю абсталяваньня пляцформы і яе замацаваньня. Затым

[1]) Рэкамэндуецца мець каля парку чыгуначную пляцформу (або мадэль яе), каб ухіліцца ад лішняй практыкі танкаў.

інструктар дэманструе пагрузку танка, накіроўваючы рух танка і даючы патрэбныя ўказаньні вадзіцелю танка.

Пагрузка робіцца наступным парадкам:

а) танк на 1-й хуткасьці павольна, пад прамым вуглом, узьяжджае на пляцформу; дайшоўшы да сярэдзіны, танк на месцы паварочваецца і займае правільнае палажэньне на пляцформе (паварот рабіць у левы бок, каб ухіліцца ад саскокваньня вусеня);

б) для зьезду з пляцформы танк паварочваецца на месцы (улева) і зьяжджае з пляцформы зноў пад прамым вуглом.

Пры пагрузцы танка навучаемыя па чарзе ўводзяць танк і ўстанаўліваюць яго на пляцформе, а затым кіруюць пагрузкай (і зьездам) танка наступнымі навучаемымі.

**УВАГА.** Звярнуць увагу навучаемых, што пагрузку вялікіх танкавых злучэньняў больш выгодна рабіць з торца, бо гэта скарачае час пагрузкі танкаў

## ПРЫСВАЕНЬНЕ КЛЯСЫ (КАТЭГОРЫІ)

**43.** Прысваеньне клясы вадзіцелю робіцца на падставе асобных іспытаў, якія праводзяцца спэцыяльнай, назначаемай камандзірам часьці, камісіяй.

**44.** Для правядзеньня іспытаў выбіраецца роўны, з цьвёрдым дзярновым пакрыцьцём, вучастак, які абсталёўваецца, згодна схэмы № 5, наступнымі перашкодамі:




**Схэма № 5**

**Абсталяваньне вучастка для правядзеньня іспытаў вадзіцеля танка.**

а) акопам поўнай профілі;

б) пад'ёмам і спускам кіруючая каля 20-25° і з даўжынёй спадаў каля 5 *м* з роўнай пляцоўкаю зьверху, даўжынёю каля 3 *м*;

в) сьценкаю;

г) прамой дарожкаю з вехамі вышынёю каля 2 *м*; адлегласьць паміж вехамі-6 м, усяго 10 вех;

д) асобнай вехаю ў канцы ўсяго шляху.

**45.** Вадзіцель пачынае рух на 2-й хуткасьці, пераходзіць, калі зможа, на 3-ю хуткасьць, бярэ акоп; паміж акопам і пад'ёмам вадзіцель павінен рухацца з гранічнай хуткасьцю, пера сіліць пад'ём і спуск, далей да сьценкі рухацца таксама з гранічнай магчымай хуткасьцю па прамой з вехамі да канцавой вехі, дзе і спыняе танк.

**46.** Акоп, пад'ём-спуск і сьценка перасільваюцца згодна правіл, указаных раней.

Рух па дарожцы з вехамі павінен рабіцца зыгзагам між вехамі, прычым вадзіцель абавязан зьлёгку закранаць кожную веху то правым, то левым вусенем, але ні ў якім разе не валіць іх (для чаго вехі ставяцца з лёгкім нахілам унутр адносна танка), асаджваньне танка назад не дазваляецца.

Падышоўшы да канцовай вехі, вадзіцель павінен затрымаць танк так, каб ён сярэдзінай насавой часткі толькі зьлёгку дакранауся да канцовай вехі.

**47.** Пры ацэнцы прымаецца пад увагу:

а) правільнасьць перасіленьня перашкод і руху;

б) тэхніка кіраваньня танкам;

в) хуткасьць.

**Увага.** Пры распалажэньні перашкод не па прамой, шлях танка між імі павінен быць правешан (абазначан). Лінія вех для руху зыгзагам павінна быць заўсёды прамой.

**48.** Для ацэнкі ўстанаўліваецца наступная шкала штрафаў:

а) рэзкае ўключэньне счапленьня . . 50 с.

б) няўмелая перастаноўка хуткасьцяй (доўга ўключаў, трэск у каробцы хуткасьцяй) . . . . . . . . . . . . . . . 70 с.

в) ківаньне танка пры паваротах . . 50 с.

г) рэзкія павароты . . . . . . . . . . 70 с.

д) лішнія абароты рухавіка на малых хуткасьцях . . . . . . . . . . . . . . . . 70 с.

е) ня ўтрымаў напрамку . . . . . . . 90 с.

ж) за праваленую ці не закранутую веху . . . . . . . . . . . . . . . . . . 50 с.

з) імкненьне да руху на 1-й хуткасьці 50 с.

і) заглушыў рухавік . . . . . . . . . . 200 с.

к) танк скаціўся на спуску (вышаў з кіраваньня) . . . . . . . . . . . . . 80 с.

л) не захаваў прамы вугал пры пераезьдзе праз акоп . . . . . . . . . . . 70 с.

м) ударыўся пярэдняй часткаю пры пераходзе праз акоп, валік або сьценку 60 с.

н) кожная мінута руху лічыцца роўнай 60 с.

Пры канчатковай ацэнцы камісія, у залежнасьці ад ўражаньня, большасьцю галасоў можа вызначыць зьмяншэньне штрафу таго ці іншага ўдзельніка, калі будуць у наяўнасьці прычыны, пагаршаючыя ўмовы іспытаў данага ўдзельніка ў параўнаньні з іншымі.

Пасьлядоўнасьць выкананьня праграм іспытаў праводзіцца (прыкладна) згодна прыкладзенай схэме.

Члены камісіі вядуць запісы па меры праходжаньня танка па іх вучастку, дзе адзначаюць памылкі.

Запіс зьмяшчае ў сабе ўказаныя вышэй пункты.

У залежнасьці ад рэзультатаў, навучаемыя залічаюцца камісіяй да аднэй з 2-х клясаў (катэгорый).

I кляса-дасканала ўладаючы (кіруючы) танкам; залічаны ў гэтую клясу можа быць дапушчан да выпярэдніцтва.

II кляса-добра ўладаючы танкам і задавальняючы запатрабаваньням да вадзіцеля.

Бяз клясы-недастаткова падрыхтаваны да пасады в дзіцеля.

**49.** Выпярэдніцтвы праводзяцца па такойжа самай, прыкладна, праграме. але камандзіру часьці даецца права як уводзіць новыя ...ткоды, так і павышаць патрабаваньні.

ЫКЛАДНЫ РА ЬЛІК ЧАСУ НА НАВУЧАНЬНЕ

| | Назва практыкаваньняў | Час на занятк |
|---|---|---|
| | Папярэдняе навучаньне . . . . . | 30 мін. |
| | Рух на 1-й хуткасьці . . . . . | 15 " |
| | Рух на 2-й хуткасьці . . . . . | 30 " |
| | Рух на 2-й і 3-й хуткасьцях. . . | 30 " |
| | Задні ход. . . . . . . . . . | 15 " |
| | Перасіленьне спускаў і пад'ёмаў. | 15 " |
| 7 | Перасіленьне акопаў . . . . . | 40 " |
| 8 | Перасіленьне вэртыкальных перашкод. . . . . . . . . . | 15 " |
| 9 | Перасіленьне драцяных загарод . | 20 " |
| 10 | Ваджэньне з улікам уплыву тактычнай абстаноўкі . . . . . | 1 г. 30 мін. |
| 11 | Рух ноччу, у тумане, у дыме і па балоцістай мясцовасьці . . . | За кошт тактычных або страл.к. выездаў. |
| 12 | Пагрузка на прычэпку . . . . | 15 мін. |
| 13 | Пагрузка на чыгуначную пляцф. | 15 " |
| | УСЯГО. . | 5 г. 30 мін. |

УВАГА: Разьлік зроблен на фактычную работу (на моторы) танка.